*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край

2021, № 6(65). Чэрвень

# Амерыканка фатаграфавала рынак у Слоніме



*Слонім, Гандлёвая плошча, 9 кастрычніка 1934 г. Ідзе гандаль разнастайнымі кошыкамі*

У аўторак, 9 кастрычніка 1934 года, у Слонім на аўтамабілі “Пакард” з боку Баранавічаў прыехала амерыканка Луіза Арнэр Бойд (1887 — 1972). Адна з самых багатых жанчын ЗША была вядомай падарожніцай — даследавала Арктыку, Грэнландыю. Дагэтуль невядома, хто ёй распавёў пра Палессе. Ці яна пра яго дзесьці прачытала? У любым разе Бойд захапілася ідэяй там пабываць.

У 1934-м падарожніца, як сябра Амерыканскага геаграфічнага таварыства, удзельнічала ў міжнародным кангрэсе географаў у Варшаве. Гэта была выдатная магчымасць для вандроўкі на Палессе. З дапамогай польскіх навукоўцаў Луіза Бойд спланавала маршрут — праз Заходнюю Украіну на поўнач — да Брэста, Піншчыны, а далей — у Бярозу, Ганцавічы, Клецк, Нясвіж, адтуль — на Слонімшчыну і ў Ружаны, Беласток, Гродна, у былую сталіцу ВКЛ Вільню. У той час заходнеўкраінскія і заходнебеларускія землі ўваходзілі ў склад польскай дзяржавы.

Прынята лічыць, што Луіза Бойд адкрыла заходняму свету таямнічае Пінскае Палессе. Калі іншыя рэгіёны яна проста праязджала, робячы пэўную

*Працяг на ст. 2*

# Амерыканка фатаграфавала рынак у Слоніме



Луіза Бойд

*Працяг, пачатак на ст.1.*

колькасць здымкаў, то ў Пінску затрымалася. У верасні-кастрычніку 1934 года яна рабіла вандроўкі па наваколлі — і па сушы, і па вадзе. І ўсё фіксавала. Бойд зрабіла на беларускім Палессі сотні здымкаў! Не трэба казаць, якая вялізная цяпер іх каштоўнасць.

Разам з амерыканкай у "Пакардзе" ехалі шафёр і два польскія навукоўцы-географы — Ванда Равеньска з Віленскага ўніверсітэта і Станіслаў Гажухоўскі з Варшаўскага ўніверсітэта. Яны кансультавалі Луізу Бойд, давалі тлумачэнні, нешта падказвалі. У навукоўцаў быў трагічны лёс. Равеньска падчас нямецкай акупацыі здабывала фальшывыя дакументы для яўрэяў, у 1942-м была расстраляна нацыстамі. Гажухоўскі пасля вайны удзельнічаў у антыкамуністычным падполлі, што было выкрыта, яго арыштавалі і кінулі ў турму, дзе ён памёр у 1948 годзе.

Як піша Малгажата Шэйнерт, падчас паездкі Бойд да Спораўскага возера дзесьці ў тым раёне рабіў здымкі фатограф з Косава Язэп Шыманчык. Менавіта ў 1934-м ён пачаў фіксаваць паўсядзённае жыццё сваіх землякоў, рабіў вандроўкі



Язэп Шыманчык




*Аўтамабіль Луізы Бойд на палескай дарозе*

па Палессі. Амерыканка заязджала і ў яго Косава, зрабіла некалькі здымкаў і ў мястэчку, і ў наваколлі. У яе, дарэчы, былі два выдатныя фотаапараты. Здымкі з экспедыцыі яна надрукавала ўжо пасля вяртання ў Злучаныя Штаты.

Луіза Бойд у 1937 годзе выдала ў Нью-Ёрку фотаальбом, у які ўключыла частку здымкаў, зробленых у Беларусі. Іншая частка не публікавалася, але захавалася. Гэты сапраўдны скарб удаступнены University of Wisconsin-Milwaukee Libraries (https://uwm.edu/libraries/).

Безумоўна, нам цікавыя здымкі, зробленыя Луізай Бойд у Слоніме і на Слонімшчыне. Яна прыехала ў наш горад, перапоўненая ўражаннямі ад Палесся, дзе знайшла столькі цікавага, арыгінальнага, чаго нідзе больш не бачыла.




Але і Слонім яе ўразіў. Не архітэктурай — амерыканка адмыслова не здымала храмы, дамы ці вуліцы. Яе захапіў слонімскі рынак і людзі, якія там гандлявалі. А гэта былі ў асноўным сяляне з навакольных вёсак. Бойд занатавала, што ў нашым горадзе ўбачыла "кошык-насілкі", які больш нідзе не сустракала (забытае вынаходніцтва слонімцаў?). А яшчэ яна пацікавілася коштамі на агародніну: агуркі каштавалі 30 грошаў за 60 штук, капуста —

*Працяг на ст. 4*

# Амерыканка фатаграфавала рынак у Слоніме



Працяг, пачатак на ст. 1-3.

*Прадавец курыцы на рынку ў Слоніме*

па 5 грошаў, буракі — 5 грошаў за кілаграм, каляровая капуста — ад 20 да 30 грошаў.

Нам удалося знайсці ў архіве амерыканскай падарожніцы 13 здымкаў, зробленых у Слоніме. На ўсіх — гандляры, сялянскія вазы на Гандлёвай плошчы (Тэатральнай). Дагэтуль былі вядомыя пераважна здымкі з агульным выглядам рынку на Гандлёвай плошчы (калі не лічыць пазнейшыя фота Язэпа Шыманчыка). Цяпер жа бачым гандаль і гандляроў буйным планам.

Яшчэ тры фота Луіза Бойд зрабіла ў Жыровічах. Безумоўна, польскія кансультанты прапанавалі зрабіць ёй кароткую вандроўку са Слоніма ў славутую праваслаўную святыню. Яна не ўсё зразумела з іх аповеду. Уразіў Бойд манах, якога яна сустрэла на прыступках сабора і сфатаграфавала.

Два фота амерыканка зрабіла на дарозе паміж Слонімам і Жыровічамі (там яна сустрэла ўпраўляючага маёнтка Пуслоўскага), адно — таксама дзесьці ў наваколлі Жыровічаў. А яшчэ ёсць здымкі з Косава і Марачоўшчыны (Мерачоўшчыны), радзімы Тадэвуша Касцюшкі (раней гэта быў Слонімскі павет).

Падчас падарожжа па Палессі Луіза Бойд на некаторых дарогах праводзіла даследаванне інтэнсіўнасці руху, падлічвала колькасць вазоў, раварыстаў, пешаходаў, аўтамабіляў і матацыклаў. Яна займалася тым, чаго ніхто тады не рабіў.

Дзякуючы фотаздымкам амерыканкі, слонімцы атрымалі магчымасць здзейсніць падарожжа ў кастрычнік 1934-га. На Гандлёвай плошчы ў той час былі драўляныя гандлёвыя рады і асобныя кіёскі. Сяляне гандлявалі з вазоў, проста з бруку.

На жаль, Бойд не ведала, што побач з плошчай у Народным доме адкрылася краязнаўчая выстава, на якой быў этнаграфічны аддзел, партрэты Льва Сапегі, Міхала Казіміра Агінскага…Інакш мы мелі б фота і адтуль.

●Сяргей Ёрш

# Амерыканка фатаграфавала рынак у Слоніме






*Гэты кошык ці насілкі, якія амерыканка Луіза Бойд убачыла на рынку ў Слоніме, найбольш яе ўразілі. Яна запісала ў нататніку: Слонін [яна так называла наш горад]. Рынак. Звярніце ўвагу на тып кошыкаў. Гэта быў адзіны рынак у Польшчы, дзе я іх бачыла. 9 кастрычніка 1934 года*

*Маршрут вандроўкі Бойд па Заходняй Беларусі. Пасля Слоніма яна паехала ў Ружаны. У Косава амерыканка пабывала яшчэ па дарозе ў Нясвіж*



*У такіх плеценых насілках насілі і прадавалі гародніну ці садавіну*



# Амерыканка фатаграфавала рынак у Слоніме



*Жанчыны прадаюць на слонімскім рынку ягады, сабраныя ў лесе*






*У архіве Луізы Бойд большасць здымкаў маюць апісанне: мясцовасць, дата, нейкія заўвагі. Дзякуючы гэтаму, яны ўяўляюць вялікую навуковую вартасць. На гэтых аркушах паперы пад фота з нашага горада яна памылкова напісала: Слонін*



*Луіза Бойд наведала Жыровічы 9 кастрычніка 1934-га.
На двух фота — манах са звязкай ключоў каля сабора. Амерыканка адзначае, што ў манастыры на той час жылі 6-8 манахаў*



*У Жыровічах Луізе Бойд расказалі пра гісторыю праваслаўнай святыні. У сваіх нататках яна зрабіла шмат памылак. Напрыклад, напісала, што гэты храм пабудаваны ў канцы XV стагоддзя*



Упраўляючы маёнтка Пуслоўскіх. Луіза Бойд піша, што яго фурманка вельмі зручная — лёгкая і хуткая. Яна зрабіла фота дзесьці паміж Слонімам і Жыровічамі



Яшчэ адзін здымак, зроблены паміж Слонімам і Жыровічамі




# 2029. October 9, 1934

Poland

En route Zyrowice to Rozana.

Caravan of birch logs (about 4 feet long). One horse and driver walking.

Going east, on the Moscow-Warsaw highway. This was the main road before railroad was built. Has been rebuilt since the war to Baranowicze. The width and trees planted along the side of the road show the Russian influence.

Russian roads are 50 feet wide whenever possible on main arterial roads.

*Дзесьці паміж Жыровічамі і Ружанамі Луіза Бойд сустрэла караван з бярозавымі бярвёнамі. У апісанні яна разважае пра мясцовыя дарогі, адзначае ў іх выглядзе расійскі ўплыў*



*“Пакард” на дарогах палохаў і людзей, і коней. У прэсе міжваеннага часу часта можна сустрэць паведамленні пра здарэнні, калі і ў Слоніме, і ў наваколлі коні палохаліся аўтамабіляў, кідаліся ў бок, перакульвалі вазы. Бойд таксама бачыла, як коні ўцякалі з дарогі, пабачыўшы “Пакард”*



*Дом у Марачоўшчыне (Мерачоўшчыне), дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка*

# Амерыканка фатаграфавала рынак у Слоніме





*У апісанні здымка згадваецца Тадэвуш Касцюшка і яго дзейнасць*

ні ў

рскі



*Косаўскі замак*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.